# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 10 (171), 8 САКАВІКА 1995 ГОДА. КОШТ 200 РУБЛЁЎ



8 САКАВІКА

Мілыя жанчыны!

Віншую ўсіх вас з нашым святам! Я жадаю вам, каб усе мужчыны ў гэты дзень хмялелі ад вашых вясновых усмешак. Беражыце іх, яны слабейшыя за нас. Мы і сёння, калі ўсім так нялёгка, мацнейшыя духам. Вядома ж, мужчынам наканавана перарабляць гэты свет. Але без нашай дапамогі, увагі, дабрыні, пяшчоты, умення дараваць і кахаць яны не справяцца са сваёй місіяй. Падарыце ім сваё цяпло і каханне. І — трымайце форму! Інакш — ніякіх шанцаў...

З любоўю
Вольга КЛЕБАНОВІЧ

Фота Генадзя ЖЫНКОВА




**_Са свайго боку рэдакцыя "Культуры" шчыра віншуе выдатную актрысу Вольгу Клебановіч з 8 сакавіка, толькі што адсвяткаваным днём нараджэння і наданнем ёй ганаровага звання народнай артысткі Беларусі._**

**_Пра яе бенефіс, які 25 лютага адбыўся ў Рускім тэатры, чытайце на стар. 4._**

СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

# ПРЫВІТАНЬНЕ ЗЬ ВІЦЕБСКА!

Маё сэрца ўсьцешана, што ўжо ж даволі доўгі час прайшоў, як я скончыў інстытут, а Вы неабыякава ставіцеся да Вашага былога выпускніка і сьведчаньне гэтага стаўленьня — адкрыты ліст выкладчыкаў БелАМа ў газэту "Культура" паводле апошніх падзей канца 1994 года ў Віцебску, зьвязаных з маёй галерэяй.

Сапраўды, неяк ажываеш, калі нечакана да цябе прыходзіць вестка, што ты і твая справа неабыякавы для людзей, што цябе вучылі, спадзяваліся, калі выпускалі ў сьвет з інстытута; зрэшты не забыліся твой характар і супярэчнасьці, каб здолець адрозьніць добрае ад дрэннага і правільна, спакойна адрэагаваць на адбыўшыяся падзеі, тым самым як бы сказаўшы: "Мы добра цябе ведаем, ня толькі ўчынкі, але й душу, таму і верым". Менавіта гэтак я ацаніў той адкрыты ліст. Вы верыце мне. Гэта самае прыемнае, цёплае, чаго так не хапае мне ў апошні час у адносінах і стаўленьні да мяне самых розных людзей. Удвая прыемна гэты давер атрымліваць ад вопытных пажылых людзей, якія шмат чаго бачылі за сваю выкладчыцкую дзейнасьць. Вялікае Вам дзякуй! Пачуцьцё падзякі і прымусіла мяне Вам напісаць гэтае пісьмо.



Цяпер крыху аб сабе па працы. Ужо тры гады працую я ў Каталіцкай Грамадзе над рэстаўрацыяй Катэдральнага касьцёла ў Магілёве. І ў гэтым годзе, відаць, рэстаўрацыю старога жывапісу і рэканструкцыю страчаных яго частак мы закончым. Шмат пішацца і вядзецца дыскусій па тэме гэтай рэстаўрацыі, але адносна сябе я поўнасьцю ўсьведамляю і нясу адказнасьць за зробленую асабіста працу. Цяпер вось закончыў праект рэстаўрацыі і рэканструкцыі левай бакавой капліцы касьцёла, якая ў гонар сьв. Антонія Падуанскага. Пасьля зацьверджэньня Рэспубліканскай Рэстаўрацыйнай Радай ДзІНАС у Менску гэтага праекту на планшэце, перайду на выкананьне яго непасрэдна ўжо на сьценах. І гэта апошні значны кавалак старых фрэсак, пасьля рэстаўрацыі якіх ужо застанецца толькі завяршыць поўны фрэскавы цыкль касьцёла некаторымі сюжэтамі барочнага стылю ў навадзеле. На гэтым і скончыцца мой кантракт з Каталіцкай Грамадой па рэстаўрацыі гэтага помніка ў Магілёве.

А далей, у маім мястэчку Бобр, дзе я нарадзіўся і дзе жылі і жывуць усе мае продкі, мірам адбудавалі невялікую (10х11) цагляную царкву ў гонар сьв.Мікалая Цудатворцы. Каму, як не мне расьпісаць яе, — так сказалі людзі з царкоўнага нашага камітэту. Так што спачатку школа, дзе я вучыўся, цяпер хутка царква таго месца, дзе нарадзіўся.

Усё больш і больш прыходжу да думкі, што мая прафесія будзе зьвязана з росьпісамі сьцен, толькі ня хочацца, каб патрабавалі ўжо тэксьці і колькасьці.А гэта, на жаль, і ў атачэньні рэлігійным, клерыкальным сустракаецца. Усяляк гэтаму супрацьстаю. Вось такія планы на 95 год.

Па галерэі ў Віцебску. Відаць, маёй асноўнай памылкай і было тое, што, жывучы ў сёньняшні час, я думаў, што, нешта зрабіўшы сваімі рукамі і заплаціўшы сваімі грашыма, можна быць упэўненым —рабі там што хочаш. Аказваецца, не. Ня ўсё. Карціны вешаць дагары нагамі, дыспуты войстрыя па культуралягічнай сытуацыі — можна, а вось калі закранеш тонкі і актуальны палітычны нюанс, то твая ўпэўненасьць у рэальнасьці хутка страчваецца і бачыш, як імгненна знаходзіцца пакараньне. У галерэі адабралі памяшканьне, тое, якое ўсе бачылі, як я рэстаўраваў, прыстасоўваў пад выставачную залу, спраўна плаціў арэнду. Цяпер я перанёс усе працы ў другое, непрыстасаванае пакуль пад выставачную залу памяшканьне. Ваша праўда, знайшліся ў горадзе людзі, якім неабыякава, што я раблю, і адразу ж прапанавалі іншае памяшканьне ў цэнтры, тут жа, на суседняй вуліцы Падзьвінскай. Але трэба яго прыстасаваць пад залу (сьвятло, сьцены), бо гэта былая камерцыйная крама, што зачынілася. Не сьпяшаючыся, па меры маіх сіл, будзе і ёсьць у Віцебску першая прыватная галерэя сучаснага беларускага мастацтва "У Пушкіна".

Самае ж галоўнае — проста жыць і пацеху рабіць сваю справу. Тым больш, па маладосьці не пужаешся ніякіх цяжкасьцей і працы, якая здаецца на першы погляд невыканальнай. А пачнеш, і глядзі, нешта і самотныя высілкамі, і невялікімі сродкамі можна зрабіць.

Бо гэта ў сябе дома, у сваёй краіне можна такі цуд рабіць. Каб яшчэ і гаспадаром бы тут быць упэўнена... Можа й таму Вы мяне і паразумееце ў гэтых палітычных маіх ухілах-акцыях? Усяго Вам добрага, здароўя і асабістага шчасьця і посьпехаў кожнаму. Вялікае і цікавых навучэнцаў-студэнтаў... Паклон мой Вам!

**Алесь ПУШКІН**

## "МАЛАДЗЕЧАНСКАЯ САКАВІЦА — 95"

З 10 па 12 сакавіка ў Маладзечне адбудзецца II усебеларускі тэатральны фэстываль "Маладзечанская сакавіца". На ім будуць прадстаўлены найбольш значныя спектаклі тэатраў рэспублікі за апошні год. Сярод гасцей фестывалю — зоркі беларускай сцэны і акцёры Маскоўскага тэатра імя Ярмолавай.

У бліжэйшых нумарах мы змесцім рэпартаж з гэтай падзеі.

**Наш кар.**

## "СЯБРЫ" — КАСМАПАЛІТЫ

Мастацкі кіраўнік студыі "Сябры" Анатоль Ярмоленка яўна не з'яўляецца прыхільнікам кансерватызму. Урэшце, сёння гэты папулярны калектыў не зацыкліўся на адной знойдзеным іміджы з нацыянальным ухілам. Услед за Дзмітрыем Смольскім і Алесяй рады "Сяброў" папоўніліся новымі салістамі.

Сапраўднай сенсацыяй для прыхільнікаў гэтага калектыву стала з'яўленне ў "Сябрах" цемнаскурага саліста Джымі Нельсана з каронным нумарам "Беларускія дзяўчаты". Джымі нарадзіўся ў Ліберыі, а зараз вучыцца на факультэце журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Новы саліст "Сяброў" выдатна танчыць, у тым ліку і "Польку беларускую". Першыя выступленні Джымі перад шырокай аўдыторыяй мелі паўны поспех.

**В.К.**

## "СЛАВЯНСКІ БАЗАР": НОВЫ СТАТУС

Яшчэ адна новая арганізацыя заявіла аб сваім існаванні — міжнародная карпарацыя "Славянскі базар", якая аб'ядлала Віцебскую дырэкцыю фестываляў, кіеўскую і маскоўскую фірмы "Рок Акадэмія" і "Ірыда". Гэтая карпарацыя стане заснавальнікам чарговага, чацвёртага фестывалю ў Віцебску.

Трэба сказаць, што ў гэтым, 1995 годзе "Славянскі базар" пераўтворыцца ў міжнародны фестываль мастацтваў, у ім пэўнае месца будзе адведзена кінамастацтву, якое адзначае сёлета сваё 100-годдзе.

Цяпер карпарацыя рыхтуецца да праграмы, у якой возьмуць удзел госці болей чым з 20 краін. Названа і дата яго правядзення: з 19 па 23 ліпеня. Гранпры фестывалю — 10 тысячаў амерыканскіх даляраў, а усяго прэміяльны фонд складае 50 тысяч тых жа даляраў.

**Вольга СІДАРОВІЧ**

З ПОШТЫ

## ЗАСАКРЭЧАНАЕ РАДЫЁ

Прызнаюся шчыра — я амаль не слухаю Беларускага радыё і не гляджу непрафесійнага Беларускага тэлебачання. (Баюся, што яго не глядзіць большасць жыхароў Беларусі.) І не таму, што мне не цікава, што дзеецца на маёй Радзіме. Наадварот, усё, што тут робіцца, мяне цікавіць і турбуе. Але я не магу пагадзіцца ні з тым, што мне спрабуюць паведаміць, ні з тым, як гэта робіцца, ні з мовай, на якой гэта падаецца.

Таму я проста час ад часу ўключаю Менск, каб пераканацца, што і радыё, і ТБ існуюць. Не болей.

Звесткі ж пра сваю Айчыну я лічу за лепшае пачуць не з падладкаванага вышэйшым уладам радыё і тэлебачання, а з радыё "Свабода" (дзякаваць Богу, не глушаць) і прачытаць у "Культуры", "ЛіМе" альбо "Свабодзе".

Але вось якое пытанне мяне цікавіць колькі ўжо год. Чаму, калі б я ні ўключыў свой прыймач, я заўжды злаўлю Мадрыд, Бухарэст, Будапешт, Прагу, Парыж, Лондан, Стакгольм, Хельсінкі і процьму малых і вялікіх гарадоў з куды меншых за Беларусь краін? Толькі ніколі я не магу злавіць у любы час сутак Менск. Няўжо ўся Беларусь спіць ад 22 да 06 гадзін? Няўжо наша краіна не зацікаўлена, каб пра яе ведалі ў Еўропе? Ці вядуцца замежныя перадачы Беларускага радыё?

Зрэшты, сам расклад і частоты перадач Беларускага радыё — вялікая таямніца. Газеты іх не друкуюць.

А радыё і тэлебачанне — галіна культуры і цывілізацыі.

З павагаю,

**Мікола БУСЕЛ**

Светлагорскі раён

# КІНЕМАТАГРАФІСТЫ СУСТРАКАЮЦЦА Ў МІНСКУ

Вядомыя дзеячы кіно краін былога СССР пакінулі на нейкі час свае справы, забыліся на творчыя амбіцыі, каб разам вырашыць, як дапамагчы нацыянальным кінематаграфіям падняцца з каленяў. 2 сакавіка ў Мінскай штаб-кватэры СНД скончылася першае арганізацыйнае пасяджэнне праўлення Фонду 100-годдзя сусветнага кіно.

Рашэнне аб ягоным стварэнні было прынятае на сустрэчы ў Алматы Саветам кіраўнікоў урадаў СНД. Фонд — міжнародная грамадская арганізацыя, адкрытая для любой краіны свету. Ягоная галоўная задача — аднавіць парушаныя са знікненнем Саюза кінематаграфістаў СССР сувязі паміж працаўнікамі гэтага цэху, дапамагчы матэрыяльна кінастудыям і стваральнікам фільмаў. Вялікую цікавасць да Фонду ўжо выказалі спецыяльная камісія ЕЭС і дзеячы кіно былых прыбалтыйскіх рэспублік.

Першая вялікая акцыя Фонду — прысвечаны стагоддзю сусветнага кіно фестываль фестываляў "Фільмафэст", адкрыццё якога адбудзецца падчас традыцыйнага Маскоўскага міжнароднага кінафестывалю сёлета ў ліпені. Затым фестывальную эстафету возьмуць сталіцы былых савецкіх рэспублік. У Мінску лепшыя фільмы нацыянальных кінематаграфій будуць паказаны падчас восеньскага фестывалю "Лістапад". "Фільмафэст", як і іншыя мерапрыемствы Фонду, разлічаны не на адзін год.

Супрэзідэнтамі Фонду 100-годдзя сусветнага кіно сталіся старшыня Канфедэрацыі саюзаў кінематаграфістаў Рустам Ібрагімбекаў, рэжысёр з сусветным імем Андрэй Канчалоўскі і старшыня Саюза кінематаграфістаў Грузіі Эльдар Шэнгелая, выканаўчым дырэктарам — Тэймураз Шэнгелія.

Карэспандэнты Белінфарма папрасілі ўдзельнікаў арганізацыйнага пасяджэння пракаментаваць тое, што адбылося.

**Сяргей Салаўёў, рэжысёр, старшыня Саюза кінематаграфістаў Расіі:**

*— На жаль, шмат з таго, што сёння адбываецца ў кінамастацтве той жа Расіі, застаецца таямніцай за сямю пячаткамі і, у прыватнасці, для Беларусі. І сюды я прыехаў менавіта з-за жалю аб гэтым. Тут у мяне велізарная колькасць сяброў, блізкіх мне людзей, пра якіх і я нічога не ведаю. Гэта проста нейкая недарэчнасць, я б нават сказаў — гістарычнае трызненне. І я ўпэўнены, што калі мы аб'яднаем свае высілкі, паспрабуем што-небудзь зрабіць у плане кансалідацыі кінематаграфій у рамках СНД, мастацтва ў цэлым ад гэтага толькі выйграе. Я веру ў поспех гэтае справы, як вераць у яе Р.Ібрагімбекаў і іншыя вельмі вядомыя і вельмі занятыя людзі, што сабраліся тут. Бо не бывае так, каб 70 гадоў мы былі адзінымі, не кажучы ўжо аб шматвяковай гісторыі, а потым раптам усё перакрэслілі, на ўсё забыліся і страцілі жаданне ведаць адзін аднаго.*

**Андрэй Канчалоўскі, рэжысёр:**

*— За 70 гадоў Савецкай улады склалася пэўная роднасць кінематаграфістаў. Стварэнне Фонду, сумеснае святкаванне гэтага юбілею — толькі нагода, а ўз'яднацца мы хочам пад сцягам СНД. І добра, што гэта адбываецца ў Мінску.*

# НЕ ПАСПЕЎ...

На адным з мітынгаў БНФ колькі гадоў таму запомніўся лозунг "Дэмакратызацыя без крыві!" А ўжо пралілася кроў у Нагорным Карабаху, Баку, Тбілісі... Потым былі трагічныя падзеі ў Вільні, ахвяры жніўня 1991 і кастрычніка 1993 года. Сёння льецца кроў у Чачні. Не атрымліваецца лёгкага шляху да свабоды, не атрымліваецца "дэмакратызацыі без крыві".



Забойства тэлежурналіста Уладзіслава Лісцева не толькі папоўніла спіс ахвяр, але, здаецца, абудзіла Расію. Цяпер многія будуць вымушаны па-новаму асэнсаваць навакольны свет — свет без Лісцева, задумацца аб сваім месцы ў гэтым свеце.

Улад Лісцеў — не першы журналіст, які загінуў за свае перакананні. І, на жаль, не апошні...

Тое, што здарылася ў Маскве ў першы дзень вясны, можа паўтарыцца кожны дзень у кожнай з краін СНД. Нездарма прафесія журналіста лічыцца адной з самых небяспечных у свеце. Нароўні з прафесіяй лётчыка-выпрабавальніка і шахцёра. У пэўным сэнсе Уладзіслаў Лісцеў быў і тым, і другім. Ведаў вышыні, адчуваў глыбіню. Зрабіў шмат і яшчэ болей не паспеў...

**Калектыў "Культуры"**

## Я ВАМ СПЯЮ...

Шмат акцёраў, як вядома, любяць пець, і часта ў кагосьці нядрэнна атрымліваецца. Да 50-годдзя перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі будзе праведзены рэспубліканскі музычны тэлевізійны конкурс "Пяюць акцёры тэатра і кіно". Арганізатары — Міністэрства культуры і друку Беларусі, Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія.

Конкурс мяркуецца правесці ў тры туры. Першы тур прайшоў 6 сакавіка, а заяўкі на другі адборачны тур павінны быць пададзены з абласцей не пазней 21 сакавіка. Фінал пеўчага спаборніцтва адбудзецца 10 красавіка.

Браць удзел у конкурсе могуць усе зацікаўленыя арганізацыі, як дзяржаўныя, так і камерцыйныя.

Арганізатары спадзяюцца, што правядзенне конкурсу — гэта яшчэ адна магчымасць паказаць дасягненні нацыянальных талентаў.

**Віктар КУКЛОЎ,**
**Белінфарм**

ЕСЦЬ ПЫТАННЕ

# СУСТРЭЧА НА МОСЦЕ ПРЫМІРЭННЯ

## МОЙ ДЗЕД ВАЯВАЎ НЕ ЗА ГЕАПАЛІТЫКУ

Мяне завуць Вадзім Бекер, прадзед мой быў немцам, але не толькі таму мяне цікавіць краіна маіх продкаў. Я не ведаю нямецкай мовы, але мне падаецца знаёмай "мелодыка нямецкай гаворкі". Гэта, мабыць, нейкая генетычная памяць. Хацелася б бліжэй пазнаёміцца з "Дойчланд" — "краінай немцаў".

Хачу трохі паразважаць. Сапраўды, нейк з самага дзяцінства, мабыць, з-за прагледжаных стужак ці карцінак у кніжках у мяне выпрацаваўся вобраз таго, што немцы — гэта ворагі. І я ў дзяцінстве думаў, што ўсе немцы маршыруюць у сталёвых касках і крычаць гартаннымі галасамі штосьці накшталт "Хэндэ хох!" альбо "Форвэртс!". Калі хлопцы гулялі ў вайну, ніхто не жадаў быць "немцам", і таму часцей за ўсё ім даводзілася быць мне. Потым, пазней, мне самому захацелася разабрацца ў тым, хто яны — немцы? І тыя, хто былі калісьці на нашай зямлі са зброяй у руках, і тыя, хто сёння вязе да нас гуманітарныя грузы.

Але ж жыве яшчэ памяць у народзе, калі якая-небудзь бабулька з беларускай вёскі скажа пра благога чалавека: "У-у, як той немец!.."

Значыць, не вельмі добрую памяць пакінулі калісьці аб сабе хлопцы ва уніформе, якія размаўлялі па-нямецку. Мне падаецца непрavamерным моднае цяпер параўнанне дзвюх "імперыяў зла". Мой дзед ваяваў не дзеля "геапалітычных інтарэсаў", а за Радзіму, якая тады называлася Савецкі Саюз. І супраць таго, што называлася "Грос дойчэ райх" ад Атлантыкі да Сібіры. І што тады азначаў кавалак зямлі з назвам Беларусь, калі пад Эйфелевай вежай маршыравалі калоны вермахта, над Масквой і Лонданам віселі "хейнкелі", а ў перыскопы германскіх субмарын былі бачныя хмарачосы Нью-Ёрка... Не варта забываць на мінулае, галоўнае, каб яно не перашкаджала нам сёння.

Мне хацелася б даведацца, якія мастацкія музеі ёсць у Берліне. Якія творы мастацтва з іх найбольш вядомыя? Мастацтва цікавіць мяне як мастака-прафесіянала. І яшчэ адно пытанне, ці будуць у Берліне захаваныя магілкі савецкіх салдат у Трэптаў-парку? І хацелася б даведацца, ці існуе ў Нямеччыне зараз разуменне таго, што тыя салдаты, што ляжаць у іхняй зямлі, ваявалі і за свабоду Нямеччыны, а тое, што іхнія жыцці і подзвіг скарыстаны "геапалітыкі", — не іх віна.

**Вадзім БЕКЕР, мастак-афарміцель, 26 гадоў**

**"Пройдземся ў думках экскурсіяй па Берліне, збудуем мост Мінск — Берлін, Беларусь — Германія" — пісалася ў нашай газеце за 8 лютага (№ 6). Тады мы прапанавалі чытачам праз нашу газету звярнуцца да Мінскага Гётэ-цэнтра з пытаннямі:**

**1. Што Вы хацелі б ведаць пра сталіцу Германіі?**

**2. Чаму Вас цікавіць менавіта гэта інфармацыя?**

**Сёння мы друкуем некаторыя лісты рэдакцыйнай пошты, свядома прымеркаваўшы гэта да 8 сакавіка — свята вясны, надзеі, адраджэння. Жанчыны і дзеці найбольш пакутуюць у час войнаў. Мо менавіта таму жанчыны так блізка ўспрынялі тэму прымірэння колішніх ворагаў. Таму шэраг лістоў — ад жанчын.**

**Ілюструем падборку фотаздымкам Генадзя Жынкова, зробленым у Германіі ў нядаўні час.**



## ГАЛОЎНАЕ — КУЛЬТУРА

Я — мастак і выкладчык Віцебскага тэхналагічнага інстытута Андрэй Вярэніч, паразмаўляўшы са сваімі сябрамі, таксама мастакамі — Васілём Васільевым, Галінай Васільевай і Мікалаем Прусаковым, вырашыў напісаць вам з нагоды публікацыі ў газеце "Культура" за 8 лютага 1995 г. артыкула пад назвай "Экскурсія па Берліне". У ім нас асабліва зацікавіла тое месца, дзе ідзе гаворка пра супрацоўніцтва з Германіяй, якое ў сваю чаргу немагчымае без пэўнага ўзроўню ўзаемаінфармаванасці. "Суседзі па Еўропе павінны ведаць адзін аднаго", — пішаце вы, і з гэтым немагчыма не пагадзіцца.

Але больш за ўсё, і гэта натуральна, нас цікавіць узаемаінфармаванасць і супрацоўніцтва з Германіяй у галіне культуры.

Таму мы і вырашылі звярнуцца да вас з канкрэтнымі прапановамі па гэтым пытанні і просім перадаць наш зварот супрацоўнікам Мінскага Гётэ-цэнтра.

І. Хацелася б мець магчымасць убачыць на Беларусі ў значна больш пашыраным выглядзе творчасць такіх мастакоў, як Heinz Mack, Almir da Silva Mavignier, Günther Vecker, Wolf Vostell, Lothar Baumgarten, Günther Förg, Hubert Kiecol, Thomas Ruff, Joseph Beuys, Klaus Rinke, Hanne Darboven, Dieter Roth, Franz Erhard Walther.

ІІ. Наша дзейнасць таксама звязаная з выкладаннем. Таму хацелася б пазнаёміцца з сістэмай і прынцыпамі выкладання ў Акадэміях і ў іншых буйных мастацкіх школах Германіі. Былі б вельмі ўдзячны за магчымасць праходзіць стажыроўку ў іх.

ІІІ. Мы таксама зацікаўлены атрымліваць падборкі каталогаў па найбольш актуальных праектах і выставах сучаснага мастацтва ў Германіі, а таксама атрымліваць часопіс ART.

IV. Са свайго боку, мы гатовыя прапанаваць для Германіі мастацкі праект "Беларускі авангард" з удзелам такіх мастакоў, як Людміла Русава, Васіль Васільеў, Андрэй Вярэніч, Галіна Васільева, Мікола Прусакоў, Ігар Кашкурэвіч.

Наш кантактны тэлефон і адрас у Віцебску:
210026, г.Віцебск, вул.Леніна, д.59/11 кв.17
пашт.скр. № 109
тэл. прац. 4-27-66
тэл. хатні 36-14-50

З павагай да вас і пажаданнямі плёну ў вашых справах па садзеянні міжнароднаму культурнаму супрацоўніцтву —

**Андрэй ВЯРЭНІЧ**

## ГОРАД — ГЭТА НАЙПЕРШ ЛЮДЗІ

Што я хачу ведаць пра сталіцу і чаму:

— гісторыю ўзнікнення горада, набыткі славутых дзеячаў у галіне філасофіі, гісторыі, мастацтва;

— хто і як займаецца адукацыяй насельніцтва ў знаёмстве з культурнай і гістарычнай спадчынай горада;

— развіццё рэстаўрацыйнай працы.

Цікавасць да гэтых пытанняў — пашырэнне інтэлекту і магчымасць расказаць аб гэтым свайму дзіцяці.

**Т.ГАРАВЕЦ**
г.Мінск

## "...ТАМУ ДЛЯ ІХ ГЭТА АФІЦЫЙНАЯ ПЕРАМОГА НЕ МАЕ СЭНСУ"

Маім бацькам хутка споўніцца па 70 гадоў. У часе вайны бацька вучыўся ў Баранавіцкай медычнай вучэльні разам з вядомымі зараз дзеячамі беларускага замежжа. У 43-м пайшоў на фронт. Мае ўзнагароды, у тым ліку і "За взятие Берлина". Маці ў тыя трагічныя гады была вывезена на працы ў Германію, працавала на заводзе Брэйбахдаар у Саарбрукене, на фабрыцы Хашлох каля Нойштадта.

Прайшоўшы праз усё пекла вайны ў васемнаццацігадовым узросце, яны засталіся жывыя, выгадавалі васьмярых дзяцей.

Калі я спытала ў бацькоў, ці будуць яны святкаваць 50-годдзе Перамогі, яны адказалі: — Не.

Пасля вайны мае бацькі ўсё сваё жыццё пакутавалі ад савецкай сістэмы. Яны ахвяры ідэалогіі фізічна, але не духоўна. Мабыць, таму для іх гэта афіцыйная Перамога не мае сэнсу.

Пра Германію і Берлін мне цікава ўсё. А найбольш:

1. Сучаснае жыццё нямецкага народа.

2. Хацелася б пачуць з вуснаў самога жыхара Берліна, інтэлігента, мастака, гісторыка, яго асабістыя, суб'ектыўныя развагі пра сучасны стан нямецкага грамадства, нямецкага мастацтва, ацэнку падзей гісторыі, мінулай вайны, успаміны ветэрана, які ў часе вайны апынуўся ў Беларусі.

3. Наведаць карцінныя галерэі Берліна.

4. Пазнаёміцца з традыцыйным народным мастацтвам (народнае адзенне, ткацтва).

**Святлана РАДКЕВІЧ**
г.Заслаўе Мінскай вобласці

## ЦІ ЗАСТАЛІСЯ НА МЕСЦАХ ПОМНІКІ?

Я лічу цікавым параўнаць забудову Берліна да разбурэнняў з пасляваеннай забудовай горада. Ці адбыліся кардынальныя змены ў планіроўцы?

Ці захаваліся ва Усходнім Берліне помнікі гістарычным асобам, якія дзейнічалі да таго, як Усходні Берлін стаў на шлях сацыяльных пераўтварэнняў, і ці засталіся на сваіх месцах помнікі пасляваеннага часу?

Калі не так шмат часу, дык куды лепей пайсці, каб азнаёміцца з мастацкімі рарытэтамі ў Берліне?

**Алена КАЗЛОВА**
г.Мінск

# ЯК МНОГА Ў СЛОВЕ ТЫМ...

Словы, як і жывыя істоты, нараджаюцца, жывуць, некаторыя вельмі доўга, але няма нічога вечнага пад нябёсамі, і яны таксама нарэшце адыходзяць у нябыт. Але слова, калі нават паміраце, то не знікае бясследна, а застаецца сведкай свайго часу, калі яно хвалявала людзей і прамаўлялася мільёнамі вуснаў. Часам бывае так, што адно слова можа распавесці болей, чым таміны некаторых гісторыкаў.

Менавіта такія 12 нямецкіх словаў прадстаўлены на выставе "Словы часу", якую наладзіў Нямецкі культурны цэнтр імя Гётэ ў Мінску пры ўдзеле Міністэрства адукацыі і навукі Беларусі.

Урачыстае адкрыццё выставы адбылося ў Доме настаўніка. З уступным словам выступіла кіраўніца цэнтра імя Гётэ, якая запачаткавала дзейнасць гэтай установы ў нашых даволі складаных умовах, спадарыня Вера Багальянц. Затым выступіў міністр адукацыі і навукі Беларусі спадар Стражаў, які прамаўляў чамусьці па-руску. Адкрыла выставу кіраўніца нямецкамоўных праграм спадарыня Карын фон Врангель. Яна прамаўляла па-нямецку, але з перакладам на беларускую мову. У імпрэзе браў удзел таксама пасол ФРГ у Беларусі спадар Альбрэхт. Культурны цэнтр імя Гётэ распачаў сваю дзейнасць у нашай краіне зусім нядаўна, але ўжо добра вядомы ўсім, хто цікавіцца гісторыяй і культурай Германіі, вывучае або дасканаліць нямецкую мову.

12 "часасловаў" прадстаўлены на выставе пэўныя адрэзкі часу з новай гісторыі ФРГ. Да кожнага з 12 словаў прыкладзена дакументальнае або матэрыяльнае адлюстраванне. Возьмем, напрыклад, выраз "die Stunde Null" (гадзіна нуль). Ён адлюстроўвае той час, калі ў Германіі не хапала пасля вайны літаральна ўсяго. Голад, холад, бяздом'е panavalі ў краіне. Прадукты харчавання многія здабывалі толькі дзякуючы "Hamsterfahrten" (паездкам хамякоў ці, па-нашаму, мяшочнікаў). Гэта быў залаты час для чорнага рынку. Штосьці падобнае мы маем цяпер у СНД. Толькі ў нас гэта не пасля вайны, а пасля "перастройкі" (дарэчы, гэта таксама часаслова).

Наведнікі выставы маюць магчымасць уявіць сабе праз тое ці іншае "ключавое" слова паводзіны людзей у пэўны гістарычны час. Мы даведваемся, што такое "Wirtschaftswunder" (эканамічны цуд) або "Persilschein" (адмывальная даведка). Гэтае слова ўтварылася паводле назвы вядомага пральнага парашку "Persil": у народзе так звалі паперыны, з дапамогай якіх былыя нацысты "адмываліся" ад свайго карычневага мінулага.

Такім чынам, праз "словы часу" можна даведацца пра шмат чаго цікавага з нядаўняй гісторыі немцаў. Таму раю чытачам "Культуры" наведаць гэтую выставу, якая да 20 сакавіка будзе працяваць ў Доме настаўніка па вул. Ульянаўскай, 8.

Упэўнены, што гэтая акцыя культурнага цэнтра імя Гётэ будзе садзейнічаць паразуменню паміж народамі Беларусі і Германіі, адкрые новыя аспекты ладабенства гістарычных лёсаў дзвюх еўрапейскіх дзяржаў.

**Пятро ЛУБОЎСКІ**

КАНТРАМАРКА

# ЗОРНЫ ЧАС АКТРЫСЫ





У Рускім тэатры Беларусі з вялікім поспехам адбыўся бенефіс народнай артысткі Вольгі Клебановіч

Акцёрства... Гульня? Забава? Праца? Прафесія? Стыль жыцця? Ці ўсё цалкам жыццё аднаго канкрэтнага чалавека, падпарадкаванае сцэне? Што гэта за людзі — акцёр, актрыса, якія адным словам, рухам цела, жэстам, мімікай могуць вывесці адначасова некалькі соцень самых розных людзей з іх псіхічнай раўнавагі: змяніць настрой, прымусіць рытмічна працаваць мазгі і сэрцы? Пасунуць метрычна невялікую прастору тэатральнай залы да памераў вечнай душы чалавецтва, космасу... Вялікая магія тэатра, рэалізаваць якую могуць толькі вялікія...

Прэтэнзію на вялікасць не любяць, ёй зайздросцяць, замінаючы ажыццявіцца. Вялікімі становяцца тыя, чыя веліч вышэй за мурашовую валтузню. А калі яна яшчэ выпраменьвае дабрыню, цяпло, пяшчоту, саграваае іншых, — тады гэта зорка, ад якой не адвесці вачэй. Яна прыцягвае, паглынае твае адчуванні сваім полем, і вось ужо ты хочаш ляцець, губляеш зямное прыцяжэнне і знаходзішся ў стане вольнага палёту...

Суперзорка нашай сцэны Вольга Клебановіч у той вечар рабіла з залай усё, што хацела. Тыя шчаслівуікі, якія змаглі трапіць на яе бенефіс, любілі, кахалі любімую актрысу. Здаецца, адзіную думку залы, як заўсёды трапна, выказаў рытарычным пытаннем Аляксей Дудараў: "Вольга, не магу зразумець, як гэта ўсе-ўсе могуць цябе любіць?.."



Магчыма, за глыбінную праўду яе гераінь. Магчыма, за тое, што якой бы высокай ступені ні было пераўвасабленне ў ролю, на сцэне; акрамя персанажа, прысутнічае крыху і сама актрыса — жанчына Клебановіч, іранічная, гарэзлівая і заўсёды добрая як да сваіх гераінь, так і да залы. Майстра сцэны перакрэслівае звыклае супрацьпастаўленне: перажыванне — прадстаўленне. Тут вельмі тонкі, далікатны сплаў дзвюх выканальніцкіх сістэм, школ. А яшчэ фантастычная ўнутраная і вонкавая пластыка, дынамізм выканання, вастрыня малюнка ролі. Можна працягваць, і ўсё будзе праўдай...

Першую частку бенефісу Вольга Міхайлаўна пабудавала па прынцыпе папуры-капусніка паводле роляў, сыграных ёю за апошнія дзесяцігоддзе. Падкрэслена тэатральны прыём, разлічаны на акцёрскую імправізацыю. У пустой прасторы сцэны праз жарт мацціраваліся эпізоды любімых спектакляў. На грым не было часу, максімум, што яна паспявала зрабіць, дык гэта змяніць касцюм. Уразіла, ускалыхнула высокая тэхніка актрысы, яе цудоўная акцёрская памяць. Выхапленыя са спектакляў асобныя сцэны ўзбуджалі тыя ж эмоцыі, тое ж непасрэднае ўспрыняцце, як калісь, на прэм'ерных паказах. Лубачная Нюра Беляшова з "Незвычайных прыгодаў салдата Чонкіна" і трагічная жанчына з самага "дна" жыцця Ганна ("Зоркі на ранішнім небе"), вадэвільна-буфонная Жазэфіна ("Ад'ютантша яго вялікасці") і парадаксальна-экстравагантная ў сваіх выяўленнях глыбокага пачуцця-страсці Дорыс ("У будучым годзе, у той жа час"). Чапляюся за слова "страсць", падкрэсліваю яго. Тут я знаходжу вытлумачэнне псіхалагічнай глыбіні, арыгінальнасці, а далей і выключнай сцэнічнай выразнасці гераінь спадарыні Клебановіч. Яны — жанчыны актыўныя, нервовыя, цэласныя і — падпарадкаваныя страсці. Страсць штурхае іх на бойку за жыццё, за сваю мару, годнасць. Страсцю "апраўдвае" актрыса нават маральнае падзенне сваіх гераінь. Ну, а калі перамога, то тут ужо цэлы фантан фарбаў, гімн гэтай перамозе жанчыны. Хай гэтая перамога і невялікая паводле сусветнага маштабу, але перамагае чалавек, які на гэта мае права. У працы над роллю ісці ад сексу, шукаць моманты канфлікту паміж целам і духам, розумам, а затым паміж цэласным чалавекам і агульнапрынятай мараллю ці зладзеным яе парушэннем. Найвялікшага разумення прыроды тэатра і акцёрскага мастацтва дасягнула актрыса за тры дзесяткі гадоў сцэнічнага жыцця.

Антракт... Усхваляваная публіка абмяркоўвае ўбачанае. Называюць найскладанейшыя ролі сусветнага рэпертуару, якія запатрабавалі бы пік развіцця таленту актрысы, — гераіняў Брэхта, Чэхава. Адзначаюць, што зараз Вольга Міхайлаўна рэпеціруе ў "Месяцы на вёсцы" Тургенева ў пастаноўцы рэжысёра Мадэста Абрамава, з якім яна лёгка знаходзіць агульную мову. Асабіста я бачу Вольгу Клебановіч у найскладанейшай ролі сусветнага рэпертуару — Медэі вялікага Еўрыпіда. Ролі, да якой яшчэ ніколі ў гісторыі беларускага тэатра ніхто з актрыс не далучаўся. Чаму Медэя? Ды якраз у сувязі з тым, што артыстка Клебановіч разумее страсць, умее яе іграць і апраўдаць. А ўвогуле, на мой погляд, талент спадарыні Клебановіч — універсальны: ёй падуладна сыграць усё!

Яна — актрыса Рускага тэатра. Яна — самая беларуская актрыса гэтай сцэны. І яна — самая руская актрыса з усіх беларускіх актрыс. Заблыталіся ў словах? А за імі вялікі сэнс, і зноў унікальны. Чытаю Энцыклапедыю літаратуры і мастацтва Беларусі: "Клебановіч Вольга Міхайлаўна — руская (? — В.Р.) сав. актрыса". Беларуская дзяўчына, якая скончыла наш тэатральна-мастацкі інстытут і па дзіўным недаглядзе кіраўніцтва Тэатра імя Янкі Купалы не трапіла на гэтую сцэну, толькі таму, што іграе на рускамоўнай сцэне, аднесена ў рускія актрысы?

Усё яе дзяцінства прайшло ў мястэчку Грэск Слуцкага раёна. Яе, маленькую пявунню, ведала ўсё наваколле. Сяляне жартавалі, што калі яна заспявае, дык чуваць ажно за тры вярсты. На вяселлях Волю саджалі на сундук, і яна гучна спявала, сустракаючы маладых. Гэтыя народныя песні жывуць разам з ёй і сёння. Калі спявае Вольга Міхайлаўна, чуеш аўтэнтычнасць песні, у якой інтанацыі плачу, стогну, малітвы нечакана змяняюцца непрыхаваным радасным светаўспрыманнем. Гэта — жывая душа народа. І яшчэ — ад маці, ад дзеда яна навучылася падымаць лён і ездзіць на трактары, рабіць любую вясковую працу. Прырода тэмпераменту, ментальнасць, характар, інтанацыі, пластыка, нават знешнасць — усё бярэ вытокі там, на Случчыне, і ўсё пераходзіць у яе акцёрскі патэнцыял, багаж.

Забыць не магу яе Сцепаніду са "Знака бяды" паводле Васіля Быкава — пластыку рухаў абцяжаранай суровым лёсам простай сялянкі, аўтэнтычнасць (не характэрнасць!) вясковай гаворкі-трасянкі. Гэты буйны беларускі характар паўстаў на рускай сцэне Беларусі! Зашчыміла сэрца на бенефісе, калі актрыса выконвала сцэну са спектакля: чаму сёння, гэтая адна з лепшых работ тэатра (і вельмі актуальная як па змесце, так і па мастацкіх вартасцях) спісана ў нябыт і сёння не іграецца? Як не хапае ў калейдаскопе камерцыйна-забаўляльнага рэпертуару пранізлівай народнай трагедыі...

Вольга Клебановіч была каралевай вечара. Гэта быў яе зорны час, і зорны час яе партнёраў па сцэне, усяго тэатра. Задума паказаць сябе і свой тэатр удалася. Выключная з'ява ў нашым мастацтве — пераемнасць традыцый акцёрскімі пакаленнямі. На гэтай сцэне дзесяцігоддзі ззяў і ззяе дуэт Аляксандры Клімавай і Расціслава Янкоўскага. І наступнае пакаленне нарадзіла сваіх зорак — Вольгу Клебановіч і яе двух нязменных партнёраў, Аляксандра Ткачонка і Уладзіміра Шэлестава! Так, зоркі. Зоркі першай велічыні. І ў гэты вечар, як заўсёды, яны былі разам. А з імі, з усім тэатрам шчыра дзялілі іх і сваю радасць гледачы. Ушаноўвалі талент народнай артысткі і радаваліся за беларускае мастацтва.

**Вячаслаў РАКІЦКІ**

*На здымках:*

1. Нюра Беляшова ("Незвычайныя прыгоды салдата Чонкіна").
2. Ганна ("Зоркі на ранішнім небе").
3. Сцепаніда ("Знак бяды"). У ролі Петрака Аляксандр Ткачонак.
4. Жазэфіна ("Ад'ютантша яго вялікасці).
5. Лізэта ("Адзіны нашчадак"). У ролі Крыспіна партнёрам Вольгі Клебановіч на бенефісе выступіў яе сын — Дзяніс Дзянісаў.
6. Дорыс ("У будучым годзе, у той жа час"). Партнёр актрысы — Уладзімір Шэлестаў.

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**








АВАНСЦЭНА

# МАСТАЦТВА ГЕАМЕТРЫЧНАЙ ЭКСПРЭСІІ

Імёны мастакоў, што зрабілі сусветна вядомым правінцыйны Віцебск, сёння знаёмыя, напэўна, кожнаму свядомаму беларусу. Пра класікаў мастацтва XX стагоддзя — Казіміра Малевіча, Марка Шагала ды іхніх паплечнікаў — пішуць і кажуць цяпер шмат. Цікава, што сёння, праз семдзесят гадоў, Віцебск ізноў заяўляе аб сабе як адзін з цэнтраў авангарднага мастацтва Беларусі і Усходняй Еўропы. Аматары выяўленчага мастацтва, спадзяюся, памятаюць аб цікавых выставачных праектах і акцыях, што адбыліся пад віцебскім небам у апошнія гады.



Аб тым, што сёлетні год не будзе выняткам з правіла, сведчыць адкрыццё напрыканцы студзеня выставы сябра Саюза мастакоў Беларусі Галіны Васільевай пад назвай "Канкрэтна-канструктыўнае мастацтва". Гэта ўжо другая персанальная выстава мастачкі ў Віцебску. Першая адбылася ўзімку 1992 года і сталася адной з першых радыкальна-авангардных экспазіцый у горадзе.

Сённяшняя сацыяльна-эканамічная сітуацыя ў рэспубліцы зусім не спрыяе некамерцыйным праектам — і тым больш прыемна бачыць, што яшчэ магчымыя выставы, не арыентаваныя на танную папулярнасць. У прадстаўленых на выставе палотнах адсутнічае выяўленчы складнік: у іх не адлюстроўваюцца знешнія формы рэчавага свету або соцыуму. Работы маюць, хутчэй, сутнасны характар, яны створаны паводле катэгорый, якія ўнікаюць славеснагічных фармулёвак. З пэўнай прыблізнасцю стыль мастачкі можна было б вызначыць як "геаметрычны абстракцыянізм". Разам з тым важна адзначыць, што палотны Галіны — не стылізацыя пад супрэматызм Малевіча, канструктывізм Татліна або "геаметрызм" Піта Мандрыяна, чым грашаць многія мастакі, што на хвалі чарговай моды пачалі працаваць у стылі "авангард". У выпадку Галіны Васільевай гэта выспелая свядомая пазіцыя творчай асобы, якая не адмаўляе ніякія традыцыі, але ідзе па ўласным шляху ў мастацтве.

Экспазіцыйная прастора выставы прасякнута трагічным светаадчуваннем. Суровая прыгажосць канструктыўна-пластычных рашэнняў уражвае сваёй палкай экспрэсіўнасцю. У знешне статычных працах сканцэнтравана моцная дынаміка руху ("Рэйс", "Накірункі"). Палотны захапляюць экспансіўнай энергіяй лакальнага колеру найстаражытных геаметрычных форм (цыкл "Сцяна"). Рытмы каляровых пасак, ліній, плоскасцяў то зачароўваюць манатоннай пульсацыяй, то кружаць галаву, нібы гукі бубна ў танцы шамана. І тут жа — тонка нюансаваныя жывапісныя кампазіцыі, блізкія па духу да лірычнага абстракцыянізму або дэкаратыўнасці народнага мастацтва. Жарсць і пяшчота, агонь і лёд, дыямент і попел! Напэўна, той, хто не знаёмы з аўтарам, мусіў бы ўявіць сабе мажнога мужчыну, штосьці накшталт "трыбуна рэвалюцыі" Уладзіміра Маякоўскага —і быў бы здзіўлены, даведаўшыся, што гэта творы крохкай маладой жанчыны Галіны Васільевай.

Усе мы сведкі і ўдзельнікі сённяшняга бязладнага і мітуслівага жыцця. Час перамен — цяжкі час. Але ўсё залежыць ад пункту погляду. Кажуць, у такія часы і ствараецца гісторыя. Дарэчы, гісторыя мастацтва таксама!

**Мікола ПРУСАКОЎ**

*На здымках:* Галіна Васільева і экспазіцыя яе твораў.



# ПРАЦЯГЛАСЦЬ ІМГНЕННЯЎ

***(Зацемкі аб творчасці арыгінальнай мастачкі Таццяны КОЗІК)***

Дазвольце кароткі ўступ. Усе мы бачылі, як кружыць лісце ўвосень. Некаторыя нават заўважалі, як ліст адрываецца ад галінкі. Але прадчуць момант, калі гэты ліст павінен адарвацца, перажыць як здарэнне — дадзена не ўсім. Ды і не ўсім гэта патрэбна. Большасць з нас задаволена ведаю, што і як павінна быць. І глядзім мы на свет згодна з логікай развагі. Бадай, толькі дзеці і мастакі заўважаюць працягласць імгнення, напоўненасць яго асобным жыццём. Мастак перавыхоўвае нашы вочы, каб мы былі здольныя не толькі глядзець, але і бачыць. Галоўная мэта мастацтва — загамаваць сюжэтнасць, "апавядальнасць", каб даць нам не веды, але адчуванне, пачуццё сэнсу. У выяўленчым мастацтве "аповяд" мае быць пераадолены, каб стаць пластычнай з'яваю.

Аглядаючы творы Таццяны Козік, я прыгадала ўсё гэта. Ясна, не ў словах.

Таццяна Козік працуе ў тэхніцы батыка. Батык — рознакаляровая тканіна. Цэлы шэраг складаных аперацый павінна яна прайсці, каб набыць непаўторны малюнак і каларыт. Гэта — этапы старажытнага, нетаропкага "ручнога мыслення". Але як зрабіць, каб каляровая тканіна стала мастацкім творам, карцінаю? Батык — мастацтва вельмі апасродкаванае. Працэс шмат у чым трагічны, бо толькі ў канцы можа мастак зразумець, творча ён правёў час ці застаўся ў палоне рамяства...

... Творы Таццяны Козік — пластычная выява любові да свету, яго цяпла, фарбаў, да падрабязна-нетаропкіх імгненняў. Свет, куды запрашае нас мастачка, не мае назвы. Буры не наведваюць гэту краіну. Бо тут кожная змена — "канец свету". А змены — няма. Гэта рай, нявінны, несвядомы сябе, пахучы і цёплы, рознакаляровы; свет зыбкіх напаўкветак-напаўматылёў, пладоў, фантастычнага срэбнага павуціння, спелага залатога святла, чорна-зялёна-рудога глею. Нас там няма. Такія творы, як "Дакладнасць рысаў каменя", "Святло дня", "Адвольнае спалучэнне кветак" і іншыя, паказваюць, што сюды, у гэты свет, не ўрываецца страшная веда аб тленнасці зямнога. Веда аб часе. Веда аб змяненні. Гэта рай, якім ён быў да чалавека, да яго "многай веды" — крыніцы смутку. Свет перад шостым днём тварэння. Бессмяротны.

Мастачка адшукала гэты свет. Тут няма яшчэ дабра і зла. Ёсць ледзь заўважальны зыб, нібы абяцанне руху, пераліў унутры імгнення. Нараджэнне першаэлементаў быцця: каменя, зямлі, расліны, паветра. Гэты свет не ведае часу. Ёсць толькі жыццё імгнення. І нашы пачуцці зрастаюцца з гэтым светам, як трава з тлустай, пахучай зямлёй, як паветра з павуціннем, вада — з пялёсткамі кветак, раскаю, з іржава-залатой плесняю. Як чорнае — з барвовым, сіняе — з бэзавым. Як крылы — з карэннямі. Адступае непакой і спешка. Купы фантастычнага зелля — маруны? баркуну? блёкату? дурнап'яну? — стаяць, напаўпрывідныя, у празрыста-густым, намацальным, цёплым часе. І душу ахутвае тая адвечная цішыня, што калыша нашы прыдарожныя грушы ("За хвіліну да змяркання").

Вечнасць не мае пачатку, не мае канца, усе яе моманты — раўнаважныя. Гэта нават не моманты, а працягласць, трыванне імгнення. Усё ў цяперашнім часе, у сферы несвядомага самаадчування. Чалавек не здольны прыдаць гэтаму свету больш дакладную форму. Але той, хто здолеў сюды ўвайсці, адчувае бязмежнасць сябе і свайго жыцця (творы "Лета", "Святло дня").

Такое светаадчуванне несумяшчальнае з закончанасцю, сістэматызацыяй, рацыяналізмам. Творы, якія гэта даводзяць, — на маю думку, лепшыя ў прадстаўленай калекцыі. "Вежа патаемнага імкнення". "Таямніца трохмернай прасторы"... Гудзенню першасных колераў — чорна-зялёнага, вохрыстага, крывава-барвовага — мастачка спрабуе надаць напрамак, меладыйнасць. Але маланкі расплываюцца сінімі ценямі, павісаюць



блакітна-залатым павуціннем, але не адрываюцца ад "зямлі", урастаюць у яе, нібы карэнні-жылы. Канструкцыя разбураецца, не здолеўшы ўтварыцца. Спробы адарвацца ад гэтай асновы ў рамах дадзенасці — дарэмныя. Канструкцыя — у творчасці чалавека, у яго свядомасці. Так сама, як мелодыя.

Асаблівую ўвагу звяртае мастачка на трыванне пагранічных станаў быцця. Вельмі цікавы твор "Апошняя гадзіна дня", які мае падвойную раму. Мастачка быццам бы хоча больш падрабязна разгледзець ледзь заўважны пераліў бляску і ценю, пераход дзённага золата ў зыбкае срэбнае паўсвятло. Дзень — спелы, залаты — адляціць на пялёстках кветкі, крыльцах матылька. Ноч будзе цёплая, чорная, з жарам вуголляў, срэбна-сівым попелам... Апошняя гадзіна доўжыцца ў сваёй вечнасці.

... Усё яшчэ несмяротная, праходжу пад старажытнымі скляпеннямі музея. Вуліца. З-пад колаў — брудны снег. Чакаю сваёй чаргі ўключыцца ў рух. На дыхтавым шчыце трапеча абрывак старой газеты.

**Алена НІЯКОЎСКАЯ**
**Фота Ігара МАЛАШЧАНКІ**

# КІНО — СТО ГАДОЎ

Нарэшце! Аб'яўлены задоўга да свайго пачатку, ледзь не сарваны з-за папярэдніх святкаванняў, нарэшце надышоў год, які знамянуе стагоддзе ўгодкі нараджэння Кіно. І не так істотна, што сапраўдная дата нараджэння Кіно прыпадае на 28 снежня, а гэта значыць, што пра Яго можна будзе размаўляць яшчэ на працягу многіх месяцаў. Будзем імкнуцца расказваць пра Кіно без педантызму, не выкладаючы чытачам ягоную гісторыю. Больш таго, мы паспрабуем зрабіць гэта ў мяккай і адмысловай манеры, але, будзем спадзявацца, у цікавай і прыемнай для чытання форме.

Паколькі для многіх Кіно з'яўляецца забавай, хобі (чаму б і не?), маніяй, калі хочаце, пачнем з выкладання некалькіх кур'ёзных, але не вельмі сур'ёзных паведамленняў: як кіназоркі страхуюць свае "прафесійныя прылады".

Ніводная частка цела не застаецца па-за ўвагай.

Распавёў нам пра лічбы гэтых незвычайных выдаткаў французскі штотыднёвік "Voici", які апублікаваў самы апошні і поўны спіс страхавых полісаў, афармленых вялікімі зоркамі кіно, каб абараніць свае "скарбы".

Адкрываюць спіс гэтых суперстраховак, аднак, не каралевы экрана і не топ-мадэлі, а спявак Брус Спрынгсцін. Калі незнарок з-за якой-кольвечы непрыемнасці "бос" страціць голас, страхавая кампанія выплаціць яму, як прэмію, 10 мільярдаў лір. Вельмі сціплая сума, калі ўлічыць, што багацце рок-зоркі ацэньваецца ў некалькі соцень мільярдаў. За ім ідуць два спевакі: Майкл Джэксан і Мік Джэгер. Але лідэр Ролінг Стоўнс, акрамя свайго голасу, застрахаваў яшчэ адну частку свайго цела, а менавіта геніталіі. Сума асігнаванняў на гэтыя "атрыбуты" складае тры мільярды.

Джана Наніні паклапацілася не толькі пра свае галасавыя звязкі, але не забылася таксама і на вушы, і ў выпадку раптоўнай глухаты атрымае кампенсацыю ў мільярд лір.

Сярод жанчын першынство ў пытанні страхавання, безумоўна, належыць бландзінцы Клаўдзіі Шыфер, якая, верагодна, не адчувае сябе добра абароненай і супакоенай магічнымі формуламі свайго жаніха, Дэвіда Коперфілда, а таму вырашыла застрахаваць сваё цела цалкам на 5 мільярдаў. Такая гарантыя каштуе нямецкай топ-мадэлі 45 мільёнаў на год, але гэта столькі, колькі яна зарабляе прыблізна за адзін працоўны дзень, дэманструючы адзенне каралёў моды ўсяго свету і, у прыватнасці, італьянскага мадэльера Валянціна.

Франчэску Дэлера больш за ўсё непакоіць яе грудзі (800 мільёнаў) і трохі меней ногі (200 мільёнаў), у той час як Сафі Ларэн у свае 60 з гакам гадоў турбуецца аб сваім "дэкальтэ", якое абаронена страхоўкай на 250 мільёнаў.

Арнэла Муці, як і Франчэска Дэлера, турбуецца больш за ўсё пра свой бюст (600 мільёнаў), але свой твар ацэньвае шмат танней (200 мільёнаў).

Самыя "квітнеючыя" грудзі аднак належаць Сэрэне Грандзі, якая застрахавала іх ні больш ні менш як на адзін мільярд.

Нягледзячы на свой узрост, Энджы Дзікінсан усё яшчэ робіць стаўку на свае цудоўныя ногі, якія застрахаваныя на вес золата: больш, чым на 800 мільёнаў.

Кажучы пра каштоўныя канечнасці, "Voici" нагадвае, што Чарлі Чаплін, знаходзячыся на вяршыні сваёй славы, страхаваў свае ногі на 250 мільёнаў у тыя часы. А футбаліст Рабэрта Б'яджы ацаніў свае ногі ў 6 мільярдаў. Аднак гэта яшчэ не ўсе сюрпрызы, і самыя дзіўныя ідуць са Злучаных Штатаў. Спіс адкрывае Брук Шылдс, якая ў 20 гадоў застрахавала сваю цноту, хаця не вядомая сума, якую яна б атрымала ў выпадку яе страты. Не кажучы ўжо аб актрысе Морган Файрчайлд, якая шмат гадоў таму, у росквіце сваёй прыгажосці, здолела дамагчыся ад адной страхавой кампаніі страхоўкі на пазногці (на руках і нагах).



Аднак сапраўднай вынаходніцай у гэтым сэнсе была дзіва нямога кіно Ліліян Гіш, вочы якой у 1919 г. былі ацэненыя ў 150 тысяч долараў. Забаўна, ці не праўда?

Мы трохі пажартавалі. У наступны раз мы абяцаем быць больш сур'ёзнымі. Аднак, я ўжо казаў пра тое, што Кіно - гэта сукупнасць многіх складнікаў: гэта гісторыя кіно і ягоных зорак, механізмы вытворчасці і тэхналагічныя наваўвядзенні; гэта гучныя і скандальныя гісторыі, хваляванне і смех; гэта вялікія і не вельмі вялікія акцёры з іхнімі цікамі, маніямі, адмысловасцямі, іхнім божым дарам.

Нешчаслівае тое кіно, якому не патрэбныя зоркі і героі, як аднойчы выславіўся Б.Б., — у дадзеным выпадку гэта не Брыжыт Бардо, а Бертольд Брэхт.

* Наступны артыкул, які будзе хутка апублікаваны на старонках гэтага выдання, прымеркаваны да рэтраспектывы фільмаў Л.Вісконці і прысвечаны тэме: "Лукіна Вісконці, кіно і гісторыя".

**Асвальда ЛЕУЦЫ**

## ТВОРЧАЯ КУХНЯ

***Часам здаецца, што ў эфіры пануе адно тэлебачанне і амаль ніхто не слухае радыё, асабліва ў горадзе, дзе "скрынка" ёсць амаль у кожнага. Але гэта толькі здаецца, бо на самой справе існуе велізарная радыёаўдыторыя, у якой ёсць свае любімцы — дыктары, аглядальнікі, вядучыя, не менш папулярныя, чым тэлевізійныя журналісты, якім, дарэчы, зрабіцца папулярнымі значна прасцей, бо іх ведаюць у твар, пазнаюць на вуліцы. Нават калі тэлевізійны журналіст не такі ўжо і таленавіты, не такі ўжо цікавы субяседнік, усё роўна яго ведаюць, а яго прафесійныя недахопы "згладжвае", затушоўвае "карцінка", змест "карцінкі" неяк атаясамліваецца з вобразам тэлежурналіста: калі "карцінка" была цікавая, хвалюючая, то і чалавек, які вёў перадачу, пакідае адпаведнае ўражанне. А часам папулярнасці тэлежурналіста спрыяе проста прыгожы твар, густоўнае адзенне. Радыёжурналіста на вуліцы не пазнаеш, не пазнаеш нават па голасе, бо ў звычайным жыцці — на вуліцы, у краме, у тралейбусе, дома — голас яго зусім не такі, які ён у радыёэфіры. Дакладней, гэта той самы голас, але ў радыёэфіры ён набывае нейкую іншую, так бы мовіць, вышэйшую якасць, там ён і змест, і "карцінка", і думка, і пачуццё.***

***І гэта вельмі не проста — зрабіцца папулярным радыёжурналістам, маючы ў арсенале толькі адзін сродак — голас. Голас, за якім, вядома — асоба, яе стаўленне да людзей і жыцця.***

***Знаёмцеся, Алена Сцяпанава, радыёжурналіст. Шаснаццаць гадоў працавала ў "Беларускай маладзёжнай", дзесяць з іх — намеснікам галоўнага рэдактара. Потым узначальвала радыёстанцыю "Крыніца". Цяпер — аўтар і вядучая папулярнай радыёпраграмы "Для тых, хто дома".***

***Яе голас, інтанацыі, словы, з якімі яна звяртаецца да слухачоў, выклікаюць давер, спагаду, добрыя зваротныя пачуцці. І сведчанне гэтаму — тыя падзякі, якія гучаць падчас тэлефанаванняў у прамым эфіры і пасля перадачы ў дні яе выхаду.***

***Сёння Алена Сцяпанава госць нашай рэдакцыі, з ёй гутарыць наш карэспандэнт.***

# АЛЕНА СЦЯПАНАВА, РАДЫЁЖУРНАЛІСТ

**— Алена Мікалаеўна, вядучы на радыё — хто ён? Журналіст, дыктар, акцёр ці ўвогуле прапаведнік, улічваючы велізарнасць аўдыторыі, на якую ён уздзейнічае?**

— Ну, прапаведнік, гэта, відаць, занадта гучна. Для сябе асабіста я вызначаю сваю ролю вядучай як ролю псіхатэрапеўта. Мне так шкада нашых людзей (а нашы слухачы гэта ў большасці пенсіянеры, маці, наогул, жанчыны), што заўсёды хочацца іх падтрымаць — добрым словам, спагадаю, усяліць кроплю надзеі. Яны настолькі затурканыя нашым сённяшнім жыццём, што проста неабходна звяртацца да іх душы, імкнуцца хоць крышачку падняць настрой.

А роля акцёра ў дачыненні да вядучага, таксама як і роля дыктара, зусім не падыходзіць. І дыктара і акцёра вучаць, як слова данесці, як сябе падаць. Вядучых, на жаль, ніхто не рыхтуе, ніхто з імі не рэпеціруе. І тут галоўная якасць — шчырасць. Калі хочаш, каб табе давяралі, кажы тое, што думаеш, і не крыві душою.

**— Думаю, што асоба вядучага — галоўны кампанент у гэтай прафесіі. Тут не схаваешся за мікрафон, за тэкст...**

— Так. Тым больш, што і тэкст пішам мы самі, вядучыя. І тут не апраўдаешся, як акцёр ці дыктар: я, маўляў, прачытаў тое, што мне далі, я за тэкст не адказваю.

**— Вядома, што ў радыё — мільённая аўдыторыя. Якім Вы сабе ўяўляеце свайго слухача? Да каго Вы звяртаецеся? Да асобнага чалавека ці да грамады?**

— Несумненна, да асобнага чалавека. Доўгі час мы за лесам не бачылі асобнага дрэва. Не задумваліся, што грамадства складаецца з людзей. І што лёс і маральны ўзровень грамадства залежыць ад маралі кожнага асобнага чалавека. Інакш кажучы, якія людзі, такое і грамадства. Таму грамадства можа зрабіцца лепшым толькі тады, калі кожны чалавек будзе строга ставіцца да сябе самога. Гэту ісціну я і стараюся данасіць да сваіх слухачоў. Што ў мяне атрымліваецца, меркаваць слухачам.

**— І якія ж іх меркаванні? Хто звоніць? Якія пытанні задаюць?**

— Мяркуючы па званках, слухаюць нас на рабочых месцах, часам у магазінах (відаць, стоячы ў чарзе) і тыя, хто дома... У мяне склалася ўражанне, што, дзякуй Богу, нашы слухачы — гэта людзі, якія думаюць яшчэ пра штосьці, акрамя сваіх уласных бедаў. Рэдка хто з нашых абанентаў нечага просіць, патрабуе для сябе, у большасці выпадкаў людзі ацэньваюць факты пра прынцыпе справядлівасці. Мне здаецца, людзі сталі часцей задумвацца над жыццём, асэнсоўваць яго.

**— Ведаю, што праца ў "жывым эфіры" вельмі нялёгкая. Чытала, што тэлевізійных вядучых па тым, колькі яны трацяць энергіі, прыраўноўваюць да шахцёраў і лётчыкаў. А як на радыё?**

— За той час, што бываю ў эфіры, так выкладваюся, што пасля перадачы мой голас не пазнаюць. "Жывы эфір" патрабуе быць заўсёды ў добрай форме і ў добрым настроі. Але ж добры настрой сёння таксама дэфіцыт!.. Дрэнны настрой, вядома, адбіваецца на голасе, на інтанацыі, і для таго, каб яго схаваць, даводзіцца прыкладаць вялікія псіхічныя намаганні.

**— Відаць, папулярнасць Вашай перадачы надаюць не толькі правільна знойдзеная інтанацыя і шчырасць, але і кола праблем, якія Вы ўзнімаеце? Ад практычных парад да высокай духоўнасці...**

— Вядома, не хлебам адным жыве чалавек. Хочацца дайсці, прабіцца да яго душы. А яшчэ трэба ўлічваць, што радыё слухаюць людзі з рознымі запатрабаваннямі, з рознай адукацыяй, з розным выхаваннем.

**— У Вашай праграме ледзь не дзесятак рубрык.**

— Калі не болей. "Дзелавыя спатканні", "Формула поспеху", "Школа сямейнага выхавання", "Дарога да храма", "Дошка аб'яў", "КІР" (карысная інфармацыя і рэцэпты)... Усё адразу і не згадаю!..

**— Відаць, усё гэта можна лічыць, так бы мовіць, нейкім адмысловым сямейным каналам?**

— Я лічу, што наогул патрэбна сямейнае радыё. Хопіць нам нейкіх абстрактных грамадска-палітычных перадач. Трэба вяртаць чалавека да самога сябе, а не выхоўваць безаблічную адзінку, чый адрас "не дом і не вуліца"... Мы ж часам звярталіся не да чалавека, а да яго цені, альбо да нейкага манекена, створанага з лозунгаў, заклікаў, кодэксаў...

**— І гэта кажаце Вы, чалавек, як некалі гэта фармулявалася — "з актыўнай грамадскай пазіцыяй"? Ці не па палітычных матывах была прыпынена яшчэ ўрадам Кебіча "Крыніца"? Ды так і не аднавілася...**

— Палітыка не павінна быць вышэй за чалавека. Як казалі мудрацы мінулага: "Чалавек — мера ўсіх рэчаў".

**— Цалкам падзяляю Вашу пазіцыю. Мы доўгі час называлі мяшчанствам натуральнае прыватнае жыццё чалавека, яго, так бы мовіць, маленькія, асабістыя радасці. Ды, відаць, толькі яны і з'яўляюцца сапраўднай каштоўнасцю жыцця. Мэта жыцця — не барацьба за "светлую будучыню", а імкненне годна пражыць сённяшняе жыццё, гэты вось дзень, тыдзень, год...**

**Жадаю Вам усяго найлепшага — здароўя і шчасця. І, вядома, росквіту Вашай праграме. Будзем спадзявацца, што з цягам часу на нашым радыё будзе створана рэдакцыя сямейных праграмаў.**

**На развітанне прашу Вас падзяліцца з нашымі чытачамі парадамі Вашага "КІРа". Да надыходзячага свята жанчын гэта будзе якраз дарэчы.**

**Гутарыла Рэгіна БАКУНОВІЧ**

## "КІР" — ЗА ШЧАСЦЕ Ў СЯМЕЙНЫМ І АСАБІСТЫМ ЖЫЦЦІ

Рэкорд па колькасці шлюбаў (у манагамным свеце) належыць былому баптысцкаму святару амерыканцу Гліну Уолфу, які паслядоўна жаніўся 27 разоў, прычым з дзвюма сваімі жонкамі ён браў шлюб двойчы. Паводле слоў самога "мнагажэнца", агульная колькасць дзяцей у гэтых шлюбах складала — 41.

Самым жа верным мужам можна лічыць індыйца Тэмулы Бхікайі Нарымэна, які памёр у 1940 годзе і быў у адным шлюбе 86 гадоў. Праўда, тут трэба ўлічыць тое, што на момант вяселля маладому было ўсяго 5 гадоў. Такія раннія шлюбы заключаліся па згодзе паміж роднымі з мэтай захавання кланавых сувязей або спынення варожасці паміж сем'ямі.

## "КІР" — ЗА СТРОГІ ЎЛІК

Адна дацкая сямейная пара больш як 45 гадоў збірае і вядзе строгі ўлік сваіх сямейных канфліктаў. У выніку іх незвычайнай калекцыі зафіксавана 9236 вялікіх і малых сямейных сварак.

2087 папрокаў муж адрасаваў жонцы з-за нясмачнай або несвоечасова згатаванай вячэры. 1615 заўваг ён зрабіў адносна марнатраўства сваёй дарагой палавіны.

## "КІР" — ЗА МАЎЧАННЕ

Сямейная пара з Новай Зеландыі Курціс і Ліна Врайеры ўжо 45 гадоў захоўваюць сапраўды "ледзяныя" дачыненні. Амаль адразу ж пасля вяселля з-за нейкага дробнага і нязначнага канфлікту яны вырашылі, што будуць устрымлівацца ад гутарак адзін з адным, абмежаваўшы ўсё дзелавымі дачыненнямі. Муж і жонка аказаліся "цвёрдымі арэшкамі" і слова трымаюць дагэтуль. Праўда, за гэты час у іх з'явілася пяцёра дзяцей. "Я ўпэўнена, што мы застаемся адзінай у свеце сямейнай парай, у гісторыі якой была толькі адна сварка", — з годнасцю гаворыць Курціс.

## "КІР" РЭКАМЕНДУЕ

Маскоўскі астролаг Аляксандр Грыгаровіч склаў універсальны гараскоп, прыдатны да любога тыдня года.

На яго думку, прызначаць спатканне лепш на вечар пятніцы. У суботу не варта працаваць і вучыцца — трэба адпачываць. У нядзелю шкодна сумаваць. Не варта таксама ўсчынаць нейкія сур'ёзныя дзеянні.

Панядзелак лепш адвесці для сямейнага быту. Нядрэнна зрабіць дома прыбіранне. Варта звярнуць увагу, што ў панядзелак эмоцыі пераважаюць над логікай.

На аўторак адкладзіце рашэнне буйных праектаў і наогул актыўныя дзеянні, пакупкі і ўсемагчымыя пачынанні.

Серада — дзень інфармацыі. У гэты дзень, аднак, павышаецца небяспека траўматызму і маёмасных страт. На гэты ж дзень прыходзіцца інтэлектуальны пік.

Ну, а па чацвяргах трэба падсілкавацца энергіяй — узмоцнена харчавацца, больш адпачываць на свежым паветры, займацца лёгкімі фізічнымі практыкаваннямі.

## НАГАВОРНАЕ ЗЕЛЛЕ

Зыходны пункт ясны: даўно вядома, што шлях да сэрца мужчыны ляжыць праз ягоны страўнік. Чым жа трэба пачаставаць каханага, каб абудзіць і ўзмацніць яго пачуцці? У Старажытнай Грэцыі добрай "нагаворнай" славай карысталіся стравы з рыбы. Такім чынам, першы рэцэпт гатовы: карміце выбранніка сэрца як мага часцей дарамі мора.

Памідоры ў старажытнасці называлі "яблыкамі кахання" — "пома-д-аморэ". Значыцца, на закуску падаём салату са свежых памідораў, запраўленых пятрушкай, часнаком, мятай.

Потым пераходзім да першай стравы. Любоўны суп звычайна ўключаў дробна расцёрты часнок, перац, сельдэрэй і труфелі (рэцэпт мадам дэ Пампадур). З труфелямі, відаць, узнікнуць цяжкасці, усё ж астатняе зусім даступна.

Далей ідзе другая страва, як мы ўжо дамовіліся, — рыбная. Кацярына Медзічы рэкамендавала падаваць да яе артышокі, якія яна высока цаніла як узбуджальнік кахання. Цяперашні іх заменнік — бульбяное пюрэ.

Напаследак напоім выбранніка "чаем". На пытанне: "Што гэта ты прыгатавала?", — з мілай усмешкай адказвайце: "Грузінскі чай, другі ж не па кішэні". "Чай" жа гатуем так: 4 калівы чабору, 2 — мяты і каліва размарыну (можна замяніць зялёным чаем) заліваем у тэрмасе паўлітрам кіпню, і праз 10 мінут напітак гатовы. "Чай" гэты трэба піць на працягу трох месяцаў удваіх, па вечарах, як гэта рабілі Трыстан і Ізольда. Поспех гарантаваны!

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік —
Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь

Нам.галоўнага рэдактара —
Людміла КРУШЫНСКАЯ



Адказны сакратар — Пётра ВАСІЛЕЎСКІ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Камп'ютарная вёрстка — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: 76-94-66



Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 6500
Замова 428
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.